// БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№2 (165)
люты 2016

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"



## У НУМАРЫ:

### Лютаўскія навіны кампаніі "Будзьма беларусмі!"

У лютым кампанія "Будзьма беларусамі!" правяла ў розных гарадах Беларусі шэраг мерапрыемстваў, прысвечаных Міжнароднаму дню роднай мовы.

**Працяг на стар. 3**

### Газеце беларусаў Польшчы "Ніва" - 60

Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" віншуе калектыў рэдакцыі і ўсіх чытачоў газеты "Ніва" з юбілеем.

**Працяг на стар. 3**

### У Іркуцку адбудзецца міжнародны фестываль "Беларускі кірмаш-2016"

20 гадоў таму, 31 траўня1996 года, адбыўся 1-ы З'езд Беларусаў Прыбайкалля. Іркуцкі Моладзевы клуб "Крывічы" запрашае ўсіх сваіх сяброў адзначыць гэтую падзею і сабрацца на "Беларускі кірмаш-2016" 29 траўня 2016 года.

**Працяг на стар. 4**

### "Мова Нанова" ў Варшаве і Таронта

Беларуская мова пераможна крочыць па свеце. Чарговым сведчаннем гэтаму стала адкрыццё курсаў "Мова Нанова" ў сталіцы Польшчы.

**Працяг на стар. 7**




# ВІНШУЕМ ЛІДЗІЮ САВІК З ЮБІЛЕЕМ

1 сакавіка знакавы юбілей святкуе адна з заснавальніц Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", шматгадовы сябра Вялікай Рады Лідзія Савік (Беларусь).

Выдатная даследчыца беларускай літаратуры, пісьменніца, літаратурны крытык, кандыдат філалагічных навук, прафесар, педагог, ганаровы акадэмік Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі – усё гэта пра Лідзію Сымонаўну Савік. Акрамя таго, гэта вельмі інтэлігентная, душэўная, мудрая і абаяльная жанчына, з якой заўжды прыемна камунікаваць.

Шмат гадоў Лідзія Сымонаўна працавала старшым навуковым супрацоўнікам Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН Беларусі, затым — прафесарам Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў. Дзякуючы яе няўрымслівай, карпатлівай працы беларусам адкрыліся шматлікія, нязведаныя скарбы роднай літаратуры.

На пачатку 1990-х гг. Лідзія Сымонаўна атрымала доступ да архіваў КДБ, дзе знаходзіліся справы так званых "ворагаў народа". Яна напісала больш за 300 артыкулаў пра беларускіх творцаў у энцыклапедыях, выдала творы многіх рэпрэсаваных пісьменнікаў, такім чынам адкрыўшы іх творчасць для шырокай грамадскасці. Таксама ёю напісаны манаграфія "Пакліканыя. Літаратура беларускага замежжа" і шматлікія артыкулы пра беларускіх пісьменнікаў і дзеячаў замежжа.

Шаноўная Лідзія Сымонаўна!

Сардэчна віншуем Вас з юбілеем! Для нас вялікі гонар працаваць разам з Вамі!

Выклікае шчырае захапленне тое, колькі высілкаў, энергіі, часу і цярпення Вы паклалі на тое, каб адкрыць беларусам і ўсяму свету творчасць многіх таленавітых беларускіх эміграцыйных пісьменнікаў. Менавіта дзякуючы Вам і Вашым кнігам нашы суайчыннікі даведаліся пра сусветна вядомага беларуса — славутага вучонага Барыса Кіта.

У Вашай асобе маем надзейнага паплечніка, які заўжды гатовы дапамагчы справай і мудрай парадай. Вялікі дзякуй Вам за Вашую карпатлівую шматгадовую працу, за адданасць беларускай справе, за тое што Вы ўсе гэтыя гады побач з "Бацькаўшчынай"!

Віншуем Вас са святам і жадаем моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, нязгаснай энергіі, сонечнай цеплыні, радасці і дабрабыту!

**Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

навіны "Будзьма!"

# ЦЫТУЙ СВАЁ! НАСІ СВАЁ! СПЯВАЙ СВАЁ!

9 лютага ў прасторы Studio67 у Мінску адбылася прэзентацыя праектаў "Чытай! Насі! Цытуй! Год беларускага мыслення".

Немаленькае памяшканне запоўнілася людзьмі вельмі хутка. Тут сабраліся тыя, хто спрычыніўся да ўвасаблення праектаў кампаніі "Цытуй сваё!". Сярод іх – дызайнеры, літаратары, інтэлектуалы, спонсары і проста неабыякавыя да беларускай думкі людзі.

Нагадаем, праект "Цытуй сваё!" быў распачаты ў траўні мінулага года шэрагам інстытуцый грамадзянскай супольнасці ды адукацыйных устаноў (Міжнародны кансорцыум "ЕўраБеларусь", Лятучы ўніверсітэт, Беларускі саюз дызайнераў, грамадская кампанія "Будзьма беларусамі!", Беларускі Калегіум, "Мова Нанова"). Ён заклікаў беларусаў звярнуцца да найлепшага з беларускай думкі, згадаць перліны, на якія мы не звяртаем увагі, бо яны побач, свае.

Адным з першых вынікаў ініцыятывы "Цытуй сваё!" стаў зборнік выказванняў нашых мысляроў, які выйшаў у свет сёлета ў студзені. Падрабязней пра яго стварэнне распавяла каардынатарка кампаніі Таццяна Вадалажская.

"Мы сталі думаць, што трэба ўнесці ў разуменне беларусамі саміх сябе тую частку, якая найменш прысутная. Вобразы, сімвалы, музыка – гэта ўжо ёсць, а вось беларускае мысленне яшчэ далёка ад шараговага беларуса".

Асноўная праблема тут – у адсутнасці пераемнасці. Патрэбна было штосьці такое, што лёгка б "падкідвала" думкі "на кожны дзень". Таму спачатку з'явіліся маленечкія квадрацікі-магніты з цытатамі, якімі так лёгка абменьвацца, перадаваць, чапляць, дзе гэта толькі магчыма. А далей паўстаў цэлы "фан-клуб". Людзям прапанавалі дасылаць свае ўлюбёныя беларускія цытаты, якіх у выніку прыйшло больш за 250.

"Мы вырашылі, што выданне цытатніка павінна быць агульнай справай, таму звярнуліся да краўдфандынгавай платформы "Талакошт". За 30 дзён да нас далучыўся 81 чалавек, і мы сабралі 23 мільёны 300 рублёў", – паведаміла Таццяна Вадалажская.

У выніку выйшлі 550 асобнікаў з цытатамі 77 аўтараў.

Думкі выбітных беларусаў можна насіць не толькі з сабой у выглядзе цытатніка, але і на сабе – у выглядзе саколак з прынтамі.




Радыё "Свабода"

Іх дызайнеры распрацавалі на пленэры, які адбыўся летам на хутары Вайцюшкі.

Гэтыя макеты ўжо ёсць у свабодным доступе на спецыяльнай старонцы sakolki.eurobelarus.info.

Кампанія "Цытуй сваё!" не абмежавалася стварэннем цытатніка беларускага мыслення і прынтаў для саколак. Яе арганізатары пайшлі далей – абвесцілі Год беларускага мыслення.

Генеральны дырэктар Міжнароднага кансорцыума "ЕўраБеларусь" Улад Вялічка распавёў, што ўжо распрацаваны першыя крокі для такога амбіцыйнага года. Самы істотны праект, над якім ужо ідзе праца, – "Анталогія беларускага мыслення". Яна выйдзе ў свет гэтай вясной. У межах Года беларускага мыслення ў розных гарадах ужо праходзіць серыя лекцый "Спадчына Ігната Абдзіраловіча". Для больш шырокага кола неўзабаве распачнецца конкурс эсэ на тэму інтэлектуальнай спадчыны Беларусі. А ўжо па-сапраўднаму масавым абяцае стаць "Тыдзень беларускага МЫслення", які плануецца правесці ў верасні па ўсёй Беларусі.

Завяршыў вечарыну невялікім канцэртам Зміцер Вайцюшкевіч, які гасцінна прымаў на сваім хутары Вайцюшкі дызайнераў падчас пленэру.

**Паводле eurobelarus.info**

навіны ЗБС "Бацькаўшчына"

# СУПРАЦОЎНІКА БЕЛАРУСКАГА РАДЫЁ РАЦЫЯ НЕ ПУСКАЮЦЬ У БЕЛАРУСЬ

Чарговы раз супрацоўніку радыё "Рацыя" Радаславу Дамброўскаму забаранілі ўезд у Беларусь. Разам з жонкай Ілонай Карпюк-Дамброўскай яны збіраліся на канцэрт курсантаў сёлетняга "Басовішча" "Адборышча", які адбыўся 19-га лютага ў Мінску.

Радаслаў Дамброўскі рабіў культурніцкую візу па запрашэнні Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", якое з'яўляецца адным з партнёраў канцэрта. Яго жонка візу атрымала, а вось самому Радаславу патэлефанавалі з консульства ў Беластоку і папрасілі забраць свае дакументы, бо ў адваротным выпадку яму паставяць чарговы штэмпель "Уезд забаронены", прычыну адмовы яму не патлумачылі.

Апошні раз Дамброўскаму забаранілі ўезд у Беларусь у кастрычніку 2013 года, калі ён збіраўся на кінафестываль "Лістапад".

**Паводле "Беларускага Радыё Рацыя"**



## ВІНШАВАННІ СЯБРАЎ ВЯЛІКАЙ РАДЫ

Маем гонар павіншаваць з Днём нараджэння сябраў Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", якія нарадзіліся ў сакавіку: Міколу Люцко (Беларусь), Іну Снарскую (Дзідык) (Украіна). Жадаем Вам выдатнага здароўя, бадзёрасці, аптымізму, натхнёнай працы, поспехаў ва ўсіх справах.

**Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

навіны "Будзьма!"

# ЛЮТАЎСКІЯ НАВІНЫ КАМПАНІІ "БУДЗЬМА БЕЛАРУСАМІ!"

Грамадская культурніцкая кампанія "Будзьма беларусамі!", каардынатарам якой з'яўляецца Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына", па-ранейшаму ладзіць у розных куточках краіны літаратурныя імпрэзы, выступленні беларускіх музыкаў, прэзентацыі кніг і дзіцячыя спектаклі лямцавай батлейкі, круглыя сталы, шоу Беларушчыны і многае іншае.

У лютым кампанія "Будзьма беларусамі!" правяла ў розных гарадах Беларусі шэраг мерапрыемстваў, прысвечаных Міжнароднаму дню роднай мовы. Да прыкладу, у Бабруйску адбылася літаратурна-музычная вечарына з удзелам гасцей з Мінска – паэта Міхася Скоблы і барда Таццяны Грыневіч-Матафонавай. У Слуцку прайшла сустрэча з Ярашам Малішэўскім і Аксанай Спрынчан. Штогадовае раённае "Свята беларускай мовы" прайшло пры падтрымцы кампаніі ў Чаркаскім Доме культуры Дзяржынскага раёна.

Надзвычай цікавая і разнастайная праграма была падрыхтавана кампаніяй "Будзьма!" супольна з партнёрамі культурным цэнтрам "Грунтоўня" і прома-суполкай "Зала чакання" ў Берасці. 20 лютага там адбыліся святочныя заняткі "Мовы Нанова" для дзетак, спектакль "Мама Му ў басейне", музычны вечар з гуртом Race of dreamers і сярэднявечная дыскатэка ад "Старога Ольсы".

Некалькі творчых сустрэч напярэдадні дня роднай мовы адбыліся ў школах Мінска. Падчас гэтых імпрэзаў перад вучнямі выступілі пісьменнік і музыка Юры Несцярэнка, паэтка Вікторыя Трэнас і ўдзельнікі народнага літаратурнага тэатру "Жывое слова".

Падрабязней пра гэтыя і іншыя мерапрыемствы кампаніі можна прачытаць на сайце budzma.by. Шмат цікавых праектаў робіцца анлайн праз сайт і сацыяльныя сеткі. Да прыкладу, працягваецца журналісцкі праект "Байцоўскі ген", які мае на мэце дэманстрацыю наяўнасці ў беларусах сапраўднага байцоўскага гену праз аповед пра жыццё знакавых прадстаўнікоў сучаснага спорту. Цягам месяца ў межах гэтага праекту на сайце былі апублікаваныя цікавыя артыкулы: "Як топ-зоркі муай-тай рыхтуюцца да чэмпіянату Беларусі", "Хакеіст Мікіта Камароў: "Часам цягне ў бабуліну вёску", "Жалезныя" ультрас: "Поспех залежыць ад таго, наколькі ты вольны ў сваіх дзеяннях". У рубрыцы "Культурызм" Віктар Марціновіч працягвае разважаць на актуальныя і цікавыя тэмы праз прызму асабістага асэнсавання розных з'яваў і падзеяў.

Таксама штодзённа на сайце кампаніі можна прачытаць пра найбольш цікавыя падзеі, што адбываюцца ў культурнай і грамадскай сферах у Беларусі і ў замежжы.

**Паводле budzma.by**

навіны

# ДЗЕНЬ ЗАКАХАНЫХ У БЕЛАРУСКІМ ЦЭНТРЫ Ў ТАРОНТА



Згуртаванне беларусаў Канады зладзіла літаратурна-музычную вечарыну, прысвечаную Дню закаханых.

Вершы і песні пра каханне на розных мовах (па-беларуску, па-гішпанску, па-французску, па-габрэйску і па-англійску) прагучалі 13 лютага ў Беларускім цэнтры ў Таронта.

У межах вечарыны адбыўся танцавальны майстар-клас па сальсе. Пад кіраўніцтвам дасведчанага інструктара Miko Jones Sobreira прысутныя навучыліся танчыць сальсу і атрымалі асалоду ад гэтага энергічнага танца.

Прыгожым завяршэннем вечарыны сталася рамантычная дыскатэка ў стылі рэтра.

**Ірына Тоўсцік**

## ГАЗЕЦЕ БЕЛАРУСАЎ ПОЛЬШЧЫ "НІВА" – 60!

60 гадоў таму, 4 сакавіка 1956 г., у Беластоку выйшаў першы нумар тыднёвіка беларусаў Польшчы "Ніва".

Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" віншуе калектыў рэдакцыі і ўсіх чытачоў газеты "Ніва" з юбілеем.

60 – немалы шлях для чалавека, тым больш для перыядычнага выдання. Ведаем, што гэты шлях быў для "Нівы" няпростым. Газета зазнала і забарону распаўсюду ў Беларусі, і судовы працэс супраць сябраў Праграмнай рады тыднёвіка, і фінансавыя ды іншыя складанасці... Тым не менш, нягледзячы на ўсе цяжкасці, газета здолела захавацца. Дзякуючы адданай працы рэдактараў і супрацоўнікаў яна працягвае жыць і развівацца, і, што вельмі важна, радаваць сваіх чытачоў і падпісчыкаў цікавымі матэрыяламі!

"Ніва" з'яўляецца знакавай пляцоўкай для многіх журналістаў і пісьменнікаў, актуальнай крыніцай інфармацыі пра беларускае жыццё ў Польшчы не толькі для саміх беларусаў Польшчы і Беларусі, але і для даследчыкаў жыцця беларускай нацыянальнай меншасці. Газета выкарыстоўваецца ў якасці дапаможніка ў школах Беласточчыны з вывучэннем беларускай мовы і, такім чынам, мае надзвычай важнае значэнне ў справе далучэння маладога пакалення да беларускай культуры, і галоўнае – "Ніва" ёсць тым сродкам камунікацыі, які лучыць беларусаў Польшчы ў адзіную супольнасць.

Яшчэ раз віншуем "Ніву" з юбілеем і жадаем супрацоўнікам рэдакцыі і галоўнаму рэдактару Яўгену Вапу добрага здароўя, творчага натхнення ў працы, пазітыўных навінаў, пашырэння кола чытачоў, далейшых поспехаў у справе папулярызацыі беларускай культуры ў Польшчы.

**Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

навіны

# У ІРКУЦКУ АДБУДЗЕЦЦА МІЖНАРОДНЫ ФЕСТЫВАЛЬ "БЕЛАРУСКІ КІРМАШ"

20 гадоў таму, 23 лютага 1996 года, адбыўся Першы Аргкамітэт па правядзенні 1-га З'езда Беларусаў Прыбайкалля. Затым 31 траўня 1996 года адбыўся і сам З'езд!

Іркуцкі Моладзевы клуб "Крывічы" запрашае ўсіх сваіх сяброў адзначыць гэтую падзею і сабрацца на "Беларускі кірмаш-2016", які адбудзецца 29 траўня 2016 года.

Фестываль праводзіцца з мэтай адраджэння, захавання і развіцця духоўных і культурных каштоўнасцяў беларускага народа ў Прыбайкаллі.

### Агульныя палажэнні Фестывалю

Месца і час правядзення: Іркуцк, плошча перад стадыёнам "Труд", 29 траўня 2016 г. з 12-00 да 19-00.

Падчас фестывалю будуць дзейнічаць:

1. Галоўная сцэна, на якой усе ўдзельнікі і госці Фестывалю выступяць са сваёй творчай праграмай.
2. Дзіцячая пляцоўка, дзе спецыялісты Моладзевага клуба "Крывічы" арганізуюць правядзенне беларускіх народных гульняў.
3. Танцавальная пляцоўка, дзе ўсе ахвочыя змогуць навучыцца танцаваць беларускія сярэднявечныя і народныя танцы.
4. Пляцоўка Кірмаш, на якой будзе арганізаваны продаж беларускага льну, беларускіх сувеніраў, натуральных прадуктаў з беларускіх вёсак і беларускіх страваў.
5. Бясплатныя майстар-класы па традыцыйных беларускіх рамёствах: саломапляценне, выцінанка, пляценне паясоў, вышыўка, выраб лялек-абярэгаў і да т.п.

**Удзельнікамі Фестывалю** з'яўляюцца фальклорныя калектывы, народныя і акадэмічныя хоры, інструментальныя ансамблі, ансамблі песні і танца, харэаграфічныя калектывы, асобныя выканаўцы, якія захоўваюць і прапагандуюць узоры традыцыйнай беларускай культуры, творчасць беларускіх аўтараў і выканаўцаў, якія знаходзяцца на тэрыторыі Іркуцкай вобласці.

Вітаюцца выступы ў рознапланавых жанрах, уключаючы дэкламаванне вершаў, паказ сцэнак і да т.п. Адзіная ўмова – усё павінна гучаць на беларускай мове.

Удзельнік Фестывалю павінен падаць Заяўку ў адвольнай форме, з указаннем назвы нумароў і кампазіцый, колькасці нумароў, віду творчасці, часу гучання ўсёй праграмы, але не больш за 25 хвілін.

**Госць Фестывалю** – гэта творчы калектыў ці выканаўца з іншага рэгіёну Расіі, які выконвае свае творы ў жанры традыцыйнай беларускай культуры. Госць Фестывалю таксама павінен загадзя падаць Заяўку ў адвольнай форме да 1 траўня, з указаннем назвы нумароў і кампазіцый, колькасці нумароў, віду творчасці, час гучання ўсёй праграмы, але не больш за 25 хвілін.

Кожны Удзельнік і Госць Фестывалю атрымае Дыплом, а пры знаходжанні дастатковай колькасці спонсараў Фестывалю і каштоўны прыз.



"Беларускі кірмаш-2015". Выступае ансамбль "Ручнічкі" з беларускіх вёсак Алкін і Сулкет Куйтунскага р-на Іркуцкай вобл. Фота з фэйсбука А. Рудакова

Таксама на Фестывалі плануецца ўдзел **Асаблівых Гасцей** з Рэспублікі Беларусь.

### Фармуецца Фонд падтрымкі Фестывалю "Беларускі кірмаш-2016"

Фестываль мае патрэбу ў фінансавай падтрымцы. Для гэтага неабходныя добраахвотныя бязвыплатныя ахвяраванні на арганізацыю і правядзенне Фестывалю "Беларускі кірмаш-2016".

Іркуцкі моладзевы клуб "Крывічы" звяртаецца да ўсіх сваіх сяброў з просьбай пералічыць магчымыя сродкі па наступных рэквізітах:

Иркутская городская молодёжная общественная организация "Молодёжный клуб Кривичи"

р/с 40703810700078137001

в ОАО "ВостСибтранскомбанк"

БИК 042520849,

Корсчёт 30101810700000000849

ИНН банка 3808000590// КПП банка 380801001

Усе мецэнаты і дабрачынцы будуць адзначаны Падзячнымі памятнымі Дыпломамі МК "Крывічы", а таксама пра іх будзе заяўлена на высокай сцэне 2-га Міжнароднага фестывалю "Беларускі кірмаш-2016".

Па любых пытаннях звяртайцеся: па тэлефоне (3952) 40-11-45, 8-902-17-068-30 або па e-mail: malanka2000@mail.ru

Паштовы адрас МК Крывічы: 664035, г. Иркутск, ул. Мало-Якутская, 19. "Беларуская хата".

**Паводле арганізатараў**

*Надрукавана ў скароце. Палажэнне аб правядзенне 2-га Міжнароднага фестывалю "Беларускі кірмаш-2016" цалкам чытайце на сайце zbsb.org*

навіны

# НЕКАТОРЫЯ БЕЛАРУСЫ ПОЛЬШЧЫ АДЗНАЧАНЫ БЕЛАРУСКІМІ ДЗЯРЖАЎНЫМІ ЎЗНАГАРОДАМІ

Прафесар, выдатны беларускі паэт з Беласточчыны, старшыня беларускага літаратурнага аб'яднання "Белавежа" Ян Чыквін атрымаў ад Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь медаль Францыска Скарыны за актыўную дзейнасць "па папулярызацыі беларускай культуры, мовы і літаратуры".

Яшчэ трое прадстаўнікоў беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы ўзнагароджаны Ордэнам імя Францыска Скарыны. Гэта старшыня галоўнай управы Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы Ян Сычэўскі і сакратарка гэтай арганізацыі Валянціна Ласкевіч, а таксама мастацкі кіраўнік папулярнага на Беласточчыне ансамбля беларускай песні "Прымакі" Юры Астапчук.

Як адзначаецца ва ўказе прэзідэнта РБ А. Лукашэнкі, гэтыя людзі ўганараваныя за значны ўнёсак у папулярызацыю беларускай спадчыны за мяжой і умацаванне добрых стасункаў паміж Польшчай і Беларуссю.

**Паводле "Беларускага Радыё Рацыя"**

навіны

# У АТАВЕ ПРАЙШОЎ ДАБРАЧЫННЫ КАНЦЭРТ БЕЛАРУСКІХ ТАЛЕНТАЎ



Дабрачынны канцэрт быў арганізаваны сябрамі беларускай суполкі ў доме мастака Пятра Шварцмана 16 студзеня 2016 года. Мэтай канцэрта было сабраць сродкі на правядзенне сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі, якая адбудзецца ў Атаве 3-5 верасня 2016 года.

Калі казаць пра канчатковы вынік, то так, мэта была дасягнута. Але гэты вечар паказаў яшчэ раз значна больш, а менавіта – як шмат арганізаваных і таленавітых людзей у беларускай грамадзе ў Атаве.

Падчас канцэрта гледачы пачулі разнастайныя музычныя творы: песні і рамансы ў выкананні Вольгі Кідзісюк і Ірыны Салаўёвай, віртуозную скрыпічную ігру Галіны Рэзаіпур з фартэпіянным суправаджэннем Алены Свешнікавай, бліскучы фартэпіянны дуэт Наталлі Белакуравай і Ніны Логвін, лірычныя п'есы для гітары ў выкананні Сяргея Розіна-Гурэвіча, таленавітыя кампазіцыі на клавішных і ўдарных Алега Буевіча і Алега Жукава, пранікнёнае выступленне дуэта "Кантабіле" ў складзе Улады Шамецька і Міхася Рыкава, песні Л. Коэна ў перакладзе і выкананні Міхася Рыкава, а таксама вершы атаўскіх паэтаў Юрася Шамецькі і Пятра Мурзёнка.

На вечарыне прысутнічалі каля 60 чалавек. Усё было зроблена на высокім узроўні, сардэчна, з пачуццём радасці і задавальнення. Канцэрт доўжыўся больш за паўтары гадзіны, аднак вечар працягваўся значна даўжэй у размовах, у музыкальных імправізацыях і танцах.

**Паводле belaruscanada.org**

навіны

## КАМЕНЬ З ДРУІ СТАЎСЯ КРАЕВУГОЛЬНЫМ ДЛЯ БЕЛАРУСКАЙ ЦАРКВЫ Ў ЛОНДАНЕ

У Лондане 7 лютага адбылося асвячэнне краевугольнага каменя грэка-каталіцкай царквы святога Кірыла Тураўскага і Усіх Святых заступнікаў беларускага народа. Камень быў прывезены і закладзены ў падмуркі будучай святыні з беларускай Друі – з касцёла Святой Тройцы.

Ва ўрачыстасці ўзялі ўдзел Апостальскі Нунцый у Вялікабрытаніі арцыбіскуп Антоніа Меніні і кіраўнік Украінскай каталіцкай епархіі Святой Сям'і ў Лондане Глеб Ланчына, а таксама іншыя святары, якія служаць у Англіі.

Беларускі цэнтр у Вялікабрытаніі існуе з 1947 года. Месцам малітвы на працягу больш чым паўстагоддзя з'яўлялася адмыслова абсталяваная капліца ў адным з дамоў рэлігійнага цэнтра Marian House. На працягу ўсяго часу існавання цэнтра з'яўленне царквы для беларусаў было шчырым жаданнем біскупа Чэслава Сіповіча, святароў і вернікаў замежжа і светлай марай а. Аляксандра Надсана.

Рэалізацыю гэтых намераў распачаў спадкаемца слаўных папярэднікаў і духоўных лідараў беларускага руху Вялікабрытаніі – а. Сяргей Стасевіч. Плануецца, што будаўніцтва царквы святога Кірыла Тураўскага і Усіх Святых заступнікаў беларускага народа будзе завершана ў лістападзе.



а. Сяргей Стасевіч, Апостальскі Нунцый у Вялікабрытаніі арцыбіскуп Антоніа Меніні і кіраўнік Украінскай каталіцкай епархіі Святой Сям'і ў Лондане Глеб Ланчына.

**Паводле Krynica.info**

навіны

## КНІГУ "САМАБЫТНАЯ БЕЛАРУСЬ" ПРЭЗЕНТАВАЛІ Ў ЗША

Сустрэча з пісьменніцай і даследчыцай ў галіне культуралогіі Ірынай Шумскай (Хадарэнка) адбылася 13 лютага на сходзе Беларуска-Амерыканскага Згуртавання "Пагоня" ў Нью-Ёрку.

На мерапрыемстве была прэзентаваная англамоўная кніга "Distinctive Belarus. On the Roads of Dukes, Magnates, and Poets" ("Самабытная Беларусь. Дарогамі князёў, магнатаў і паэтаў").

Выданне змяшчае шэраг нарысаў пра архітэктурную спадчыну Беларусі і звязаныя з ёй гістарычныя падзеі, прадстаўляе папулярныя легенды разам з малавядомымі фактамі з рэчаіснасці.

Падчас імпрэзы, на якой сабралася каля 30 чалавек, спадарыня Ірына адзначыла, што беларусам замежжа неабходна пераадольваць сваю даўнішнюю бяду – раз'яднанасць, а таксама ўзмацняць намаганні ў кірунку папулярызацыі беларускай культурнай спадчыны, скарыстоўваючы, сярод іншага, новыя медыясродкі і нестандартныя крэатыўныя метады.

**Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

гутарка

# КАНАДСКАЯ БЕЛАРУСКА ЗАДАЕ БЕЛАРУСКІ ТРЭНД У ВЫШЫЎЦЫ

Ірына Варабей эмігравала з Беларусі ў Канаду, дзе знайшла ідэальныя ўмовы, каб вышываць. Там ужо 10 гадоў існуе яе мастацка-дызайнэрская кампанія Spirit of Belarus, якая прапагандуе беларускую вышыўку сярод заходніх аматараў.

Са сп-няй Ірынай Радыё Свабода пагутарыла, чаму папулярнасць вышыўкі вяртаецца ў наш хуткасны час, ці можна вышыўкай зарабіць і ці дарэчы, што вышыўка з ручніка патрапіла на дзяржаўны сцяг. У гутарцы мы таксама закранулі тэмы сялянскасці і шляхетнасці гэтага занятку, узгадалі беларускую тэхніку, якая больш старажытная чым крыжык, і тэхніку, назву якой нібыта даў кароль Ягайла.

**- Спадарыня Ірына, ці можна паверыць, што нехта з'ехаў з Беларусі ў далёкую Канаду, каб проста вышываць?**

- Мая галоўная мэта была не вышываць, калі я ехала ў Канаду. Я нават і не думала, кім я ў Канадзе стану і чым я тут займуся. Ехалі проста з таго эканамічнага крызісу, які ў нас быў у 90-я. Але чалавек не можа жыць без мары. Мы ехалі па лепшае жыццё, а ў думках мне хацелася вышываць. Паверыце вы ці не, але я везла цэлую валізку беларускіх абрусаў, для таго каб іх тут вышыць і, можа, прадаць.

**- У вас было ўяўленне, што гэта можа быць валютны тавар?**

- Так, я ведала ўжо, што вышыўка папулярная ў Канадзе, у Амерыцы. Тады ў 90-х гадах ужо прыходзілі да нас, на наш кніжны рынак часопісы з Захаду са схемамі вышывальнымі, з карцінамі для вышыўкі. І хацелася ўсё гэта вышываць, у мяне ўжо тады рукі свярбелі, што буду вышываць. Я ў дзяцінстве спрабавала сама ствараць схемы для вышыўкі — на паперцы, клятчатым аркушы — і я ведала, што магу ствараць такія схемы.

**- І тут вам гэты шлях ад вышывальніцы да стваральніцы схем удалося прайсці...**

- І ў Канадзе я пачала вышываць па гатовых схемах. Ужо ў першыя дні я прыйшла ў вышывальную краму, ахнула там, ледзь не заплакала і ўсяго-ўсяго набыла. Бачыла, што прапаноўваецца шмат матываў — тут віктарыянскія, тут афрыканскія, тут індзейскія, тут расейскія, украінскія нават — і тут мяне заняло: чаму беларускага нічога няма і ніхто не ведае нават?

**- Калі вы закладалі свой сайт і кампанію Spirit of Belarus, то казалі, што вашай матывацыяй было знайсці і стварыць для іміджу краіны ўстойлівы візуальны вобраз. У прынцыпе гэта задача-выклік. Як вы ацэньвае свой поспех, наколькі вы наблізіліся да магчымага варыянту адказу?**

- Напэўна наблізілася. Таму што, калі я бачу вынік працы, калі на фестывалях людзі прыходзяць і пазнаюць, што гэта беларускае, то думаю, што задача выкананая.

**- І ўсё ж у чым гэты сімвал увасоблены — у вышыўцы, ў нейкім элеменце арнаменту?**

- Ведаеце, калі я разважаю над вашымі пытаннямі, я бачу, што ў нас розныя ўяўленні, мы ўкладваем розныя паняцці ў словы вышыўка і арнамент. Ва ўяўленьні беларускім мы асацыюем вышыўку з арнаментам, гэта ў нас амаль што сінонімы. Калі вышыўка — дык арнамент. На захадзе зусім іншае ўяўленне аб вышыўцы, яна не атаясамліваецца з арнаментам, у іх слова арнамент азначае зусім іншае. Тут часта вышыўка — гэта карціны, створаныя ніткай. У іх таксама няма такога выразу як нацыянальны арнамент. У нас жа ёсць — беларускі нацыянальны арнамент, казахскі арнамент, эстонскі арнамент...

**- Гэта, магчыма, мае карані ў тым, што вышыўка нарадзілася як ужытковае мастацтва. А як вы ставіцеся да таго, што той самы нацыянальны арнамент быў змешчаны на дзяржаўны сцяг Беларусі? Ці прыходзілася вам гэты факт прыводзіць канадцам, расказваючы пра Беларусь?**

- Размова з любым канадыйцам пачынаецца сапраўды



Ірына Варабей

аднолькава: ты адкуль? — з Беларусі — а дзе гэта? Але ў апошнія гады гэта мяняецца. Прынамсі тут на фестывалях мяне ўжо ведаюць. Так, я гавару і пра тое, што вышыўка, геаметрычныя ўзоры — на нашым дзяржаўным сцягу. На дзяржаўным, не на нацыянальным.

**- А той варыянт, які быў выбраны на сцяг, ён адпавядае яго ўжыванню, яго функцыі?**

- Калі вы хочаце спытацца пра значэнне сімволікі — то загнутыя ромбікі, напрыклад, азначаюць багацце, яны навеяныя рагамі жывёлы, якая была валютай у старадаўнія часы. Рогі могуць таксама сімвалізаваць рукі якой-небудзь багіні — абярэга. А таксама чытала ў інтэрнэце крытыку, што быццам гэты арнамент не адпавядае яго ролі, што быццам яго на паховінах ужывалі, што у ім матывы смерці... Але я арыентуюся на значэнне сімвалаў па кніжцы Міхаіла Кацара. Па Кацару, як яму сялянкі расказвалі, у нашых узорах нічога цёмнага, нічога звязанага са смерцю няма. Усе нашы ўзоры — гэта размова з Богам, гэта малітва, гэта ўхваленне, гэта просьба. Таму, які б узор ты ні ўзяў на гэты сцяг, я думаю, любы ўзор можа адпавядаць. Гэта проста сімвал нашай культуры, нашага светапогляду.

**- А цяпер пра тое, чаму вы не вышываеце строі, не бераце заказы...**

- Таму што задача маёй кампаніі — не аўтэнтычная вышыўка. Яе задача — данесці веды пра Беларусь тут у заходнім свеце. Вышыўка строяў — гэта рамяство, я займаюся мастацтвам. Калі гаварыць пра бізнэс — я ствараю і прадаю схемы для вышыўкі. Схемы я ствараю паводле сваіх твораў. Калі жанчына іх купляе, прыносіць дадому і пачынае вышываць — яна ведае, што гэта беларускае, яна дазнаецца пра краіну Беларусь, потым яна вышывае гэта з думкамі пра Беларусь.

**- А як вы гледзіце на проста шалёны выбух папулярнасці вышыванкі ў Беларусі — што вышываны матыў пашыраецца ва ўсе сферы — яго возяць на капотах машын, носяць на мабільніках?**

- Нармальна гляджу. Я марыла пра гэта, калі я пачынала сваю кампанію гадоў 10 таму. Я марыла, каб усе жанчыны ўзялі іголкі ў рукі і пачалі вышываць, каб неслі ў свет нашу адметнасць.

**- Ці здаралася з вамі такое, што вышыванне вам дапамагае нешта вельмі добра запомніць, проста зашыць у памяць?**

- О так, калі я вышываю, напрыклад, другі раз нейкі ўзор, я ўспамінаю, што было першы раз. Калі я пачала вышываць у Канадзе, я пачала ўспамінаць мае беларускія сны. Аднойчы я нават патрапіла ў Таронта на вуліцу, якую я сніла ў Беларусі. Іголка сапраўды нібы антэна ловіць хвалі сусвету, вашы ўнутраныя імпульсы і зашывае іх у тканіну. Таму ўсе рукамі вышываныя рэчы напоўненыя энергетыкай. Калі вы хочаце мець беларускі строй, раю не купляць у краме — бо

ў строй укладзеныя не толькі сакральныя сімвалы, але і энергія чалавека, які вышывае. Гэта вельмі істотна.

**- Можа быць, вы крыху прыадкрыеце, ці можа вышыванне пракарміць як бізнэс, асабліва на Захадзе?**

- Усе вышывальніцы ведаюць, што проста вышываннем і продажам схем пракарміцца нельга. Некаторыя прадаюць свае работы, але гэта не асноўны іх бізнэс. Чым можна трохі зарабіць — гэта курсамі. Тыя, хто мае курс, могуць добра зарабіць. Ёсць такія выкладчыкі, якія ездзяць па семінарах, маюць воркшопы.

**- Колькі плаціць студэнт на такіх курсах?**

- 20 даляраў за гадзіну. Калі да вас прыйшло пяць студэнтаў, гэта ўжо будзе 100 даляраў за гадзіну.

**- Вядома, што вы хочаце замацаваць у міжнародным ужытку такі тэрмін як беларуская нізáнка. Як бы вы патлумачылі асаблівасць гэтай тэхнікі для аматара?**

- Часам яе яшчэ называюць і процяг, і нацяг. Нітка стварае ўзор не крыжыкам, але такім працягнутым штрыхом. Адзін ручнік такой работы мне паслаў Янка Запруднік. І калі мяне ўсе тут пыталіся, якія адметныя беларускія тэхнікі існуюць — я вырашыла, а чаму не гэта? Я выбрала варыянт назвы нізанка, бо яго лепш можна перадаць лацінкай: Belarusian nizanka. Хачу, каб ён замацаваўся гэтак сама, як скажам украінская мярэжка. І калі я пайду, калі нават згубяцца мае працы, гэты тэрмін застанецца ў міжнародным ужытку. За ім будзе стаяць мая Беларусь.

**- Вы б маглі вярнуцца ў Беларусь лідэрам, такім вышывальніцкім гуру...**

- Ага, сабраць аўдыторыю вакол сябе, цэлыя залі, нешта прамаўляць. Не, я сваё жыццё такім не бачу. Я хачу проста быць прыкладам, сваімі работамі паказаць шлях іншым, як можна вышываць, браць іголку ў рукі і проста адчуваць асалоду ад гэтага занятку. Можа нехта з'ядноецца ў клубы ў нас, я хачу, каб і ў нас з'явіліся нейкія гільдыі, клубы, арганізацыі, часопісы, семінары. Спадзяюся, што знойдуцца больш таленавітыя, чым я, і пойдуць далей і далей пашыраць гэта мастацтва малявання ніткамі.

**Алена Ціханові,**
**"Радыё Свабода"**

***

У 2005 годзе Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" выдала ў серыі "Бібліятэка "Бацькаўшчыны" кнігу Ірыны Варабей "Там, дзе сэрца маё" (публіцыстыка, пераклады, апавяданні). Творы, апублікаваныя ў кнізе, прысвечаныя дзейнасці беларускай дыяспары ў Канадзе, асэнсаванню значных падзей і момантаў у існаванні чалавецтва і Бацькаўшчыны. Таксама ў кнізе былі змешчаныя схемы для вышыўкі, якой сп-ня Ірына даўно і апантана займаецца.

## БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТ НА САКАВІК 2016

4 сакавіка – 105 гадоў таму, у 1911-м, нарадзіўся Васіль Стома (1911–1992), пісьменнік, дзеяч эміграцыі ў ЗША.

4 сакавіка – 60 гадоў таму, у 1956-м, у Беластоку выйшаў першы нумар газеты "Ніва", тыднёвіка беларусаў у Польшчы.

5 сакавіка – 120 гадоў таму, у 1896-м, нарадзіўся Кандрат Крапіва (1896–1991) (сапр. Кандрат Атраховіч), драматург, паэт, мовазнавец.

11 сакавіка – 105 гадоў таму, у 1911-м, нарадзіўся Леў Гарошка (1911–1977), уніяцкі рэлігійны дзеяч, асветнік, гісторык, выдавец, дзеяч эміграцыі ў Францыі і Вялікабрытаніі.

11 сакавіка – 75 гадоў таму, у 1941-м, у савецкім зняволенні загінуў Аляксандр Уласаў (1874–1941), грамадска-культурны дзеяч, выдавец, публіцыст.

12 сакавіка – 165 гадоў таму, у 1851-м, памёр Ян Баршчэўскі (1799–1851), пісьменнік, выдавец, адзін з пачынальнікаў новай бела-рускай літаратуры. Пахаваны ў г. Чуднаў на Валыні.

17 сакавіка – 65 гадоў таму, у 1951-м, памёр Альберт Паўловіч (1875–1951), паэт-гумарыст, драматург. Пахаваны на Маскоўскіх могілках у Курску (Расія).

18 сакавіка – 95 гадоў таму, у 1921-м, паміж РСФСР і Польшчай падпісана Рыжская дамова, якая тэрытарыяльна падзяліла Беларусь.

19 сакавіка – 10 гадоў таму, у 2006-м, у Беларусі адбыліся прэзідэнцкія "выбары", пачаліся масавыя акцыі пратэсту ў Мінску і іншых гарадах краіны.

20 сакавіка – 40 гадоў таму, у 1976-м, памёр Уладзімір Дубоўка (1900–1976), паэт, перакладчык.

22 сакавіка – 95 гадоў таму, у 1921-м, у Вільні выйшаў першы нумар газеты "Беларускі звон" (выходзіла да 24 лютага 1923 г.). Рэдактар-выдавец – Францішак Аляхновіч.

24 сакавіка – 20 гадоў таму, у 1996-м, у Мінску адбылося шэсце апазіцыі і мітынг супраць аб'яднання Беларусі з Расіяй (удзельнічалі каля 30 тысяч чалавек).

25 сакавіка – Дзень Волі.

25 сакавіка – 70 гадоў таму, у 1946-м, у в. Рамелькі (Пастаўскі р-н) створаны Саюз Беларускіх Патрыётаў — падпольная антысавецкая арганізацыя.

25 сакавіка – 10 гадоў таму, у 2006-м, у Мінску з удзелам каля 50 тысяч чалавек адбыліся акцыі пратэсту супраць вынікаў прэзідэнцкіх выбараў.

27 сакавіка (ці 26 красавіка) – 125 гадоў таму, у 1891-м, нарадзіўся Клаўдзій ДужДушэўскі (1891–1959), палітычны дзеяч.

**навіны**

# "МОВА НАНОВА" Ў ВАРШАВЕ І ТАРОНТА

Беларуская мова пераможна крочыць па свеце. Чарговым сведчаннем гэтаму стала адкрыццё курсаў "Мова Нанова" ў сталіцы Польшчы.

Першыя заняткі адбыліся 9-га лютага ў Беларускім Доме ў Варшаве і сабралі каля трыццаці чалавек.

Тэмай першага спаткання стала "Знаёмства па-беларуску". Кожны з наведнікаў меў магчымасць прадставіцца і распавесці пра сябе.

Галоўнай "зоркай" і госцяй варшаўскіх заняткаў стала іспанка Анхела Эспіноса, якая не проста вывучыла беларускую мову, але і напісала кнігу вершаў па-беларуску. Частку з іх Анхела зачытала на моўнай сустрэчы.



Госця варшаўскіх курсаў "Мова Нанова" Анхела Эспіноса

Курсы "Мова Нанова" распачаліся ў Таронта ў лістападзе мінулага года і з таго часу праводзяцца рэгулярна.

23 студзеня 2016 г. адбыўся самы смачны і насычаны выпуск "Мова Нанова" ў Таронта – "Беларускія стравы".

Удзельнікі мерапрыемства даведаліся пра гастранамічныя традыцыі беларусаў, асаблівасці беларускай кухні, спосабы гатавання і апрацоўкі прадуктаў, назвы страў ды напояў, атрымалі некаторыя старадаўнія рэцэпты.

Відэагасцямі з Беларусі сталі Зоя і Алесь Прышывалкі, арганізатары культурніцкай ініцыятывы "ŽORNY", якія прывіталі ўдзельнікаў "Мова Нанова" ў Таронта і паказалі стварэнне аднаго кулінарнага дэсерту "Мазурка разынкавая крохкая".

Наведнікі моўных курсаў мелі ўнікальную магчымасць пакаштаваць некаторыя стравы і напоі, прыгатаваныя па старажытных рэцэптах. Таксама прысутныя назіралі за прыгатаваннем бульбяной кішкі, кулінарнага шэдэўра ад нашага эксперта Віталя Кошалева.

Госцем вечарыны стаў Алесь Кот, які здзівіў удзельнікаў сваім незвычайным строем-рэканструкцыяй Амбасадара Канцлера Вялікага Княства Літоўскага Льва Сапегі і распавёў, як важна захоўваць не толькі сялянскія кулінарныя традыцыі, але ўзнаўляць шляхецкія, магнацкія ды княскія.

Беларускія народныя танцы разам з фольк-гуртом "Яваровы людзі" сталі лагічным завяршэннем самага смачнага выпуску "Мова Нанова" ў Таронта.

**Паводле movananova.by**
**і Ірыны Тоўсцік**

навіны

# БЕЛАРУСЫ ШВЕЦЫІ ПАСТАВІЛІ “ПІНСКУЮ ШЛЯХТУ”

Згуртаванне беларусаў у Стакгольме святкавала Каляды новай працай тэатральнага гуртка – урыўкамі з “Пінскай шляхты” Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча.

Амаль год таму тэатральны гурток “Беларусаў Швецыі” прадставіў свой самы першы спектакль. Творчыя актывісты суполкі вырашылі на гэтым не спыняцца і падрыхтавалі новую пастаноўку — вытрымкі з “Пінскай шляхты” Дуніна-Марцінкевіча.

Сярод складу актораў былі як тыя, хто граў у мінулай п’есе, так і новыя акторы: Андрэй Катлярчук (шляхціч Ціхон Пратасавіцкі), Сяргей Андросенка (шляхціч Іван Цюхай-Ліпскі), Галіна Краснянская (скарбнік чыноўніка Кручкова). Чыноўніка Расійскай імперыі, які прыехаў на разборкі на Піншчыну, сыграў Павал Галушка, а яго дзясяцкага — Аляксей Кулік.

Закаханых дзяцей шляхцічаў, шлюб якіх апынуўся пад пагрозай з-за сваркі бацькоў, сыгралі Ірына Азаранка і Дзмітры Сялюк. Старога шляхціча Харытона Куторгу, які, усцешыўшыся пасадам і грашыма Ціхона Пратасавіцкага, заляцаўся да яго дачкі-падлетка, сыграў старшыня суполкі “Беларусы Швецыі” Алекс Мельнікаў.

Пасля спектакля згуртаванне ладзіла, хоць і са спазненнем, традыцыйныя Каляды для дзяцей: Чараўнік і Снегавік бавілі гульнямі, Дзед Мароз і Снягурка – падарункамі, а запрошаныя госці – прыгожымі танцамі. Прыемна, што ў гэты раз “Беларусы Швецыі” аб’ядналі на прыгожым зімовым святце не толькі беларусаў – сярод наведнікаў былі і нашыя сябры з украінскай і рускай суполак.




**Ірына Азаранка**

навіны

# У ВІЛЬНІ АДБЫЛАСЯ ПРЭЗЕНТАЦЫЯ КУРСАЎ “МОВА З ІМБРЫКАМ”

На 124-ыя ўгодкі з дня нараджэння Браніслава Тарашкевіча, аўтара славутай “Беларускай граматыкі для школ”, у Доме нацыянальных меншасцяў у Вільні адбылася прэзентацыя новых адукацыйна-забаўляльных курсаў “Мова з Імбрыкам”.

На гэтых курсах менеджар культурніцкіх праектаў з Мінска ды кіраўнік інтэрнэт-крамы Imbryk.by Алесь Мазанік супольна з Таварыствам беларускай культуры ў Вільні і Асацыяцыяй “Крывія” прэзентаваў найноўшыя распрацоўкі ў галіне прыцягнення да беларушчыны як рускамоўных беларусаў, так і тых, хто выкшталцона валодае роднай мовай.

Напачатку курсаў удзельнікі пазнаёміліся з адмысловымі відэаролікамі, якія дапамагаюць ва ўсведамленні сябе як грамадзяніна Краю. Гэтыя ролікі здымаліся падчас разнастайных курсаў і праектаў, якія ладзіў Алесь Мазанік цягам папярэдніх гадоў па ўсёй Беларусі ды не толькі.

Пасля была частка, прысвечаная хуткамоўкам па-беларуску, калі ўдзельнікі змагаліся за слушнае ды найбольш хуткае вымаўленне дадзеных цікавых выразаў.

Пасля невялікага перапынку адбыўся паказ матывацыйных ролікаў ад курсаў “Моваведа” пад кіраўніцвам Аляксея Шэіна, якія стала адбываюцца другі год запар у Мінску ды Гародні. Удзельнікі курсаў актыўна абмяркоўвалі відэа, спрачаліся ды тлумачылі свае пазіцыі, што, безумоўна, паспрыяла іхнаму знаёмству ды яднанню.

**Паводле westki.info/tbk**

навіны

# ЗЯНОН ПАЗЬНЯК ПРЭЗЕНТАВАЎ ФАКСІМІЛЬНАЕ ВЫДАННЕ КНІГІ АЎГЕНА КАЛУБОВІЧА

31 студзеня ў грамадскай зале Сабора Кірылы Тураўскага ў Брукліне (Нью-Ёрк, ЗША) Зянон Пазьняк прэзентаваў факсімільнае выданне кнігі Аўгена Калубовіча “Мова ў гісторыі беларускага пісьменства”.

Кніга распавядае аб тым, колькі набыткаў і каштоўнасцяў мела спрадвеку беларуская кніжная культура. Гэта зборы, бібліятэкі, якіх у Вялікім Княстве Літоўскім налічваліся сотні: пры манастырах, княскіх маёнтках, магістратах, яны захоўвалі сотні тысяч кніг і рукапісаў, беларускіх і з усяго свету. А таксама аб тым, як па-варварску, паслядоўна, спачатку Расійскай імперыяй, затым бальшавікамі ўсё гэтае багацце нішчылася, спальвалася, рабавалася і вывозілася ў музеі Масквы і Санкт-Пецярбурга.

“Гэта адна з тых кніжак, якія выварочваюць душу ад крыўды на жорсткасць гісторыі, прымушаюць моцна біцца сэрца, і попел пакаленняў стукае ў скронь”, – піша спадар Пазьняк у прадмове да выдання, тым самым заклікаючы чытача ведаць і памятаць пра страчаную спадчыну, берагчы і захоўваць тое, што яшчэ маем.

**Belarusworld BAZA**

**Беларусы ў свеце**
No2 (165), люты 2016
Інфармацыйны бюлетэнь
МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – Т. Печанко
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 200-70-27